# STUDENCKAJA DUMKA

N – 6

Да гадавіны Слуцкага Чыну мы зьмяшчаем тры артыкулы. Два зь іх перадрукаваныя. Першы зьяуляецца раздрукоукай перадачы радые "Свабода", другі узяты з часапіса беларускіх эмігрантау "Зважай". Мы вырашылі скарыстаць гэтыя матэр'ялы, бо па вопыту ведаем, як мала жыхары Беларусі знаемы ня толькі з часапісам "Зважай", але нават з перадачамі "Свабоды". Яшчэ нас прывабіла у гэтых артыкулах асьвятленьне Слуцкага Чыну з тых бакоу, зь якімі наш чытач мала знаемы, бо покуль незалежны беларускі друк знаеміу толькі з апісаньнем гэтай падзеі, а таму пасьпела патрэба зірнуць на яе больш шырока.

Рэдакцыя

На першы погляд Слуцкае паустаньне выглядае скромным і сьціплым, як колькасьцю самых паустанцау - усяго 10 тысячау, адсутнасьцю вялікіх перамогау, якія б мелі рашаючае значэньне у змаганьні беларускага народу з бальшавізмам, гэтак і сваім перакаяльным аб'емам. Паустаньне было абмежаванае толькі за Случчынай. Але не у стратэгічных і ваенных дачыненьнях заключаецца гістарычнае значэньне Слуцкага паустаньня, далека не. Ягоная неуміручая вартасьць скрываецца у роуні ідэйнай, як з найбольш яркіх і красамоуных выяуленьняу нацыянальнага імкненьня беларускага народу і ягонай непахіснай волі змагацца за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Яно для нас зьяуляецца асабліва важным у сувязі з тым, што шырокія масы беларускага сялянства, нягнаныя ніякім прымусам, але дабраахвотна, кіраваныя гарачай любоую да роднага краю, настолькі выказалі у сябе беларускага патрыятызму, што спантанна кінуліся у няроуны крывавы бой, пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаушчына. Такім парадкам, Узброены Слуцкі Чын быу найлепшым дакумэнтальным абгрунтаваньнем глыбокага патрыятызму, нацыянальнай сьпеласьці і бязьмернай ахвярнасьці беларускага народу у яго змаганьні за вызваленьне і дзяржаунуя незалежнасьць. Змаганьне ужо не інтэлегенцыі, але народных масау у найшырэйшым значэньні гэтага слова. У тыя часы уся Беларусь была ахопленая большымі ці меншымі паустаньнямі. Нагадаем хоць бы Вяліжскае паустаньне, што разгарэлася у 1918 годзе на найбольш пауночнай частцы Беларусі, якая пазьней не увайшла, нават, у склад БССР і якое колькасьцю удзельнікау у ім перавышала Слуцкае. Гомельскае 1919 году, Койданаускае паустаньне у 1920 годзе. Усе яны былі скіраваныя супроць аднаго й таго самага ворага, усе яны мелі адну й ту самую мэту - вызваленьне Бацькаушчыны. Узброены узрух беларускага народу у перыяд 1918-20 гадоу, меу у сябе нятолькі палітычны момант - запярачаньне бальшавізму, але й глыбокі будуючы і творчы момант нацыянальны - быць вольнымі і ні ад кога незалежнымі. Большасьць, аднак, беларускіх паустанцау гэтага часу, хоць і абапіраліся на здаровых нацыянальных фундаментах, але не была актам дастаткова арганізаваным і азначаным у сваей мэтанакіраванасьці. Гэта былі у большасьці выпадкау, хутчэй заусе, стыхійныя народныя зрухі, чымся сьвядомыя па сваіх мэтах арганізаваныя учынкі. Зусім іншы мела характар Слуцкае паустаньне. Гэта ужо нятолькі стыхійны зрух беларускага народу, зрух, якіх нятолькі у дадзены перыяд, але і на працягу доугага часу няволі беларускага народу было многа.

Тым, што паусталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаушчына, гэтыя глыбокія сваім зьместам і красамоуным значэньнем словы, вышытыя рукамі беларускіх сялянак на баявым сьцягу слуцкіх паустанцау, як нельга лепей перадаюць адзін з найбольш яркіх момантау Слуцкага паустаньня. Бязьмежную ахвярнасьць для беларускае нацыянальна-вызвольнае ідэі, якая была заусёды неад'емнай у героу Случчыны і натхняла іх на вялікія учынкі. Гэтая бязьмежная самаахвярнасьць храбрых случчакоу, якія кідаліся у вір змаганьня з перавышаючымі у10 і болей разоу сіламі ворага, ведаючы загадзя, што гэты адважны іх учын будзе крывава зломаны, якія

сталася! Але сама яна, тая праўда, аглюшаная ворагам, не закрасуе у народнай сьведамасьці бяз нашай дапамогі. Таму гэтую белую пляму у нашай гісторыі трэба напоўніць зьместам, каб народ наш пазнаў слаўную бачыну нашай гісторыі.

Цяпер беларусам пагражае фізічны й духоўны Чарнобыль. Веда пра наша гэраічнае мінулае памогуць выжыць і перамагчы ворагаў. Адно нельга рук пакладаць. Дарма, што маскоўскі акупант цяпер спыніў цяжкую рэпрэсію. Уладу у Беларусі трымаюць яшчэ у сваіх руках людзі, многія зь якіх павінны былі-б несьці адказнасьць за сваю злачынную дзейнасьць супраць паняволенага народу у мінулым.

Ніяк нельга забаўляцца наіўнасьцю. Запавет Каліноўскага пра тое, што калі маскаль над табой пануе, ня будзеш мець ніякае вольнасьці, мае сяньня такую-ж вагу, як і у часы Каліноўскага. Гэты-ж маскаль на нашых вачох зруйнаваў прыродныя й людскія рэсурсы нашай шматпакутнай зямлі, амаль выкараніў з ужытку беларускую мову, зьнішчыў бальшыню нашых рэлігійных і нацыянальных сьвятыняў, ліквідаваў культуру. І сяньня "суверэнная" рэспубліка, якая жадае быць неўтральнай, загружаная скрозь варожай ваеннай сілай зьненавіджанага акупанта.

Наша сьведамая беларуская эміграцыя падтрымлівала БНФ у ягоных намаганьнях ратаваньня беларускага народу ад фізычнай і духоўнай загібелі. Яна, колькі можа, памагае і, спадзяемся, будзе далей памагаць бацькаўшчыне вызваліцца ад чужых, стацца запраўдным гаспадаром у сваім доме. Адно тады, стаўшы запраўды суверэннай і ад нікога незалежнай, Беларусь зможа заняць "свой пачэсны пасад між народамі". Тады й наша гістарычная "праўда закрасуе" дзя нам чадкі слаўных слуцкіх гэрояў, будуць з пашанай згадваць тых, што аддалі сваё жыцьцё, калі "пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

# ГОД 1990



27 лістапада 1920 году створаная Радай Случчыны паўстанцкая дывізія пачала узброенае змаганьне з бальшавікамі. З таго часу мінула 70 год і 27 лістапада 1990 году я пераканаўся: гісторыя паўтараецца, але тое, што калісьці было трагедыяй беларускага народу, стала нагадваць кепскі жарт.

На сьвяткаваньне 70-х угодкаў паўстаньня у Слуцак з Менску прыехалі 15 студэнтаў. Гэтага аказалася досыць, каб у горадзе пачалася ціхая паніка. "Шмат дзе паўстанцам удалося ня толькі стрымаць бальшавікоў, але й адабраць ад іх захопленыя раней вёскі й мястэчкі". 15 "нацдэмаў" пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі ад цэнтру горада да аўтавакзала, выклікаючы агульнае зьдзіўленьне і рэплікі накшталт: "Вон зэф революцию делает".

"Абарона Случчыны трывала больш за пяць тыдняў, але сілы былі няроўныя". На аўтавакзале нефармалаў сустракаў, бадай, увесь асабісты склад гарадскога аддзелу унутраных спраў у чынах ад лейтэнанта да падпалкоўніка. Упэўнены, каб ня гэтая сустрэча, мясцовае насельніцтва значна менш цікавілася б адбываючыміся падзеямі. Спачатку прадстаўнікі уладаў абвінавацілі студэнтаў у правядзеньні несанкцыянаванага мітынгу, потым па загаду кураўніка ГАУС спрабавалі затрымаць хлопцаў, трымаючых у руках сьцягі. Напэўна, усе абышлося таму, што удзельнікі канфлікту не знайшлі агульнай мовы – міліцыянты ня ведалі беларускай мовы, а студэнты расейскай.

"Паўстанцкая дывізія з боем перайшла польска-савецкую дэмаркацыйную лінію..."

Студэнты так і засталіся на вакзале, на які, мусіць, не распаўсюджвалася юрысдыкцыя мясцовай міліцыі. Сьвята скончылася харавым выкананьнем песьняў экстрэмісцкага зьместу.

Пэўна, пачынаючы збройны чын, Рада Случчыны добра ведала, справа гэтая абсалютна безнадзейная. Мінула 70 год і жменька маладых нацыяналістаў пасунулася ушанаваць правінцыю, не спадзяючыся не на што добрае. Цудоўная беларуская традыцыя – займацца тым, за што будзеш пакараны – была падтрымана.

Здаецца, адметнай рысай студэнцкага руху на Беларусі зрабілася менавіта накіраванасьць на акцыі. Студэнты лезуць пад танкі на рэпетыцыі вайсковага параду, студэнты падтрымліваюць галадоўку пратэсту (на працягу адной ночы), студэнты пікетуюць польскае консульства... Узьнімуць шум вакол падзеі і пакінуць усё бяз зьмен – менавіта так адбываецца амаль усе. Можа з часам, калі у студэнцкі рух прыйдуць новыя людзі, нешта зьменіцца. А пакуль што мы адсьвяткавалі угодкі Слуцкага збройнага чыну – такія ж безнадзейныя, як і ён сам.

У.Панада



Падзеі на пляцу Леніна у Менску выклікалі вялікі рэзананс у беларускім грамадстве. Нажаль шмат хто з нашых суайчыньнікау яшчэ ня пазбавіуся ад вобразу "доброго дедушки Ленина". Паранейшаму ен застаецца для іх полубогам, полуідалам. Сяньня цярпець такое становішча ужо няма як, а таму мы прыводзім некалькі вытрымак зь некаторых ленінскіх творау. Друкуем у расейскай мове для поунай дакладнасьці прыведзеных цытытау. Чытайце, і пастарайцеся, пазбавіушыся стэрэатыпау, цьвяроза зірнуць на гэтую постаць ката і заснавальніка сталінізму.

# ЛЕНІН

Тов. Зиновьеву в Петроград:

"Тов. Зиновьев, только сегодня мы узнали в ЦК, что в Питере рабочие хотят ответить на убийство Володарского массовым террором и что вы их удержали.

Протестую решительно!

Мы компрометируем себя: грозим даже в резолюциях Совдепа массовым террором, а когда до дела, тормозим революционную инициативу масс, вполне правильную.

Это не-воз-мож-но!

Надо поощрять энергию и массовидность террора" (26 ноября 1918).

Тов. Сталину в Царицын:

"Будьте беспощадны против левых эсеров и извещайте чаще". "Повсюду надо подавить беспощадно этих жалких и истеричных авантюристов". (7 июня 1918).

Телеграмма в Саратов тов. Пайкесу:

"Расстрелять, никого не спрашивая и не допуская идиотской волокиты" ( 22 августа 1918).

Тов. Сталину в Петроград:

"Вся обстановка белогвардейского наступления на Петроград заставляет предполагать наличность в нашем тылу,а может быть,и на самом фронте, организованного предательства. Только этим можно объяснить нападение (Юденича) со сравнительно небольшими силами, стремительное продвижение вперед.

Просьба обратить усиленное внимание на это обстоятельство, принять экстренные меры для расскрытия заговоров" (27 мая 1919).

"Предупреждаю,что за это председателей губисполкомов и членов исполкомов буду арестовывать и добиваться их расстрела" (20 мая 1919).

В Президиум Московского Совета рабочих и крестьянских депутатов!

"Дорогие товарищи! Вынужден по совести сказать, что ваше постановление так политически безграмотно и глупо, что вызывает тошноту. Так поступают только капризные барыни и глупенькие русские интеллигенты.

Простите за откровенное выражение моего мнения и примите коммунистический привет от надеющегося, что вас проучат тюрьмой за бездействие" (12 октября 1918).

В ответ на жалобу М.Ф.Андреевой относительно арестов интеллигенции:

"Нельзя не арестовывать, для предупреждения заговоров,всей этой околокадетской публики. Преступно не арестовывать ее.Лучше, чтобы десятки и сотни интеллигентов посидели деньки и недельки. Ей-ей, лучше" (18 сентября 1919)

Максиму Горькому о том же: "Короленко ведь почти меньшевик. Жалкий мещанин, плененный буржуазными предрассудками." "Нет, таким "талантам" не грех посидеть недельки в тюрьме." "Интеллектуальные силы рабочих и крестьян растут и крепнут в борьбе за свержение буржуазии и ее пособников, интеллигентиков, лакеев капитала, мнящих себя мозгом нации. На деле это не мозг, а говно" (15 сентября 1919)

Смольный, Зиновьеву:

"Знаменитый физиолог Павлов просится за границу. Отпустить за границу Павлова вряд ли рационально, так как он и раньше высказывался в том смысле, что, будучи правдивым человеком, не сможет, в случае возникновения соответствующих разговоров, не высказаться против Советской власти и коммунизма в России.

Ввиду этого желательно было бы, в виде исключения, предоставить ему сверхнормативный паек" (25 июня 1920)

"Медленно оформляли заказ на водные турбины!В коих у нас страшный недостаток! Это верх безобразия и бесстыдства! Обязательно найдите виновных, чтобы мы этих мерзавцев могли сгноить в тюрьме"(13 сентября 1921)

Тов. Уншлихту:

"Гласность ревтрибуналов (уже) не обязательна.Состав их усилить Вашими людьми, усилить их всяческую связь с ВЧК, усилить быстроту и силу их репрессий. Поговорите со Сталиным, покажите ему это письмо" (31 января 1922)

Перадрукавана з "Согласия" N 5 за 1989г.

В. Ульянов (Ленин)

# ГРОШЫ, ГРОШЫ.

## З.САЛОШКІН

Верасень 1990 года. Нарэшце і студэнты дачакаліся свайго часу. І аб іх жыцьці паклапаціліся нашыя народныя дэпутаты.

Памятаеце колькі слоу аб павышэньні жыцьцевага узроуню моладзі чулі мы пад час перадвыбарчай барацьбы і ужо з трыбун зьездау? Слухаючы некаторыя зь іх нельга было стрымацца ад сьлез удзячнасьці за такі пасапрауднаму "бацькоускі" клопат. Цяжка было уявіць сабе, што усе гэта будзе ажыцьцеулена. Але усе у нашых дэпутатау пайшло як у прымауцы: "сказана-зроблена". І крок, трэба адзначыць, вельмі арыгінальны. Прымаючы новы закон пра прыбытковы падатак, нашыя парлямэнтарыі узялі й скасавалі студэнтам ... не, не падаткі, як нехта мог падумаць, студэнтам скасавалі усе ранейшыя падатковыя ільготы, чым значна аблегчылі... ім кішэні. Але гэта яшчэ ня усе! Гэтае рашэньне павінна абудзіць у нашае моладзі неадольную прагу да ведау, бо кожны ведае: "сытае бруха да навукі глуха". Ведалі, пэуна, гэтую прымауку і у Вярхоуным Савеце. Ведалі і зрабілі лягічную выснову: чым меней сытым будзе "бруха", тым больш становуча яно будзе ставіцца да ведау. (Хоць на маю думку з набыцьцем ведау найбольш моцна зьвязаная галава. Але хто ведае, можа й памыляюся?)

А зараз паспрабую паказаць вам на лічбах, наколькі моцнае жаданьне да ведау імкнуліся абудзіць у нашага студэнта нашыя дэпутаты. Так, дзякуючы таму, што студэнты у шэрагах выконваючых "разовые работы", іх заробак абкладаецца падаткам ужо з 70 рублеу, у адрозьненьне ад 100 у працуючых стала. Можна параунаць і сумы падаткау са 100 рублеу - у студэнтау 8руб. 50 кап., а у працуючых стала - 0 руб. 29 кап.

Роуняцца усе у правох толькі пасьля 700 рублеу. Пасьля 700 рублеу кожны чым болей зарабляе, тым болей аддае. І той хто кожны месяц зарабляе па 900 руб., і той, хто зарабляе тыя самыя, 900 руб. адзін раз у год , кожны пакіне дзяржаве па 116 руб. 20 кап. І ужо ня дай божа зарабіць нашаму студэнту дзе-небудзь у Сібіры тысячы тры. Тут ужо, як кажуць, вымай 1045 рублеу 20 кап. ды кладзі. Можа гэта так і ажыцьцяуляюцца прынцыпы сацыяльнай справядлівасьці?

Калі я прачытау новы закон пра прыбытковыя падаткі, дык адразу зазірнуу у матэр'ялы студэнцкага форума, што адбыуся у 1989 годзе. Асаблівую увагу зьвярнуу на прамовы Гарбачева ды Рыжкова. Аднауляю і у вашай памяці некаторыя зь іх выказваньняу. Гарбачеу у сваей прамове, у якой матэр'яльнаму становішчу студэнцтва адведзена 53 радкі зь дзьвух старонак, казау наступнае: "В соответствии с поручением правительства Госплан и соответствующие Ведомства готовят предложение об улучшении материального положения студентов... Мы исходим из того, что при всех финансовых трудностях нужно изыскать средства

ПРАЦЯГ НА 8 СТР.



# ЕСЬЦІ ХОЧАЦЦА ?



**Д.ЧАПЛІНСКІ**

Прыняты закон аб мовах, прынята Дэклярацыя аб сувэрэнітэце. Вы памятаеце, як людзі натоупамі выходзілі на вуліцы, каб вітаць гэтыя важныя у гісторыі Беларусі падзеі? Я не. Іх і ня было. Наадварот. Насельніцтва іх успрыняла абыякава, а некаторыя нават варожа. "Што мне гэтая мова? Жраць няма чаго!" Вось таму і трэба разгледзіць лягічны ланцужок ад незалежнасьці да эканамічнага росквіту.

Падмуркам любога прагрэсу зьяуляецца разьвіцьце культуры. Культуры у шырокім сэнсе слова: культуры эканомікі, палітыкі, прававой культуры, мастацтва і г.д. Нездарма у эканамічна разьвітых краінах захаду і усходу на высокім узроуні знаходзіцца разьвіцьце культуры. Прытым ня толькі у асобных яе прадстаунікоу (філезафау, навукоуцау, пісьменьнікау ...), але усяго грамадзтва. Між іншым, першае без апошняга не бывае. Увогуле, тое, што без культуры немагчымы прагрэс, ніхто і не аспрэчвае, а таму вернемся да Беларусі.

Мы усе жадаем жыць добра. Большасьць лічыць сябе людзьмі культурнымі, а таму не сумняваецца, што яны вартыя лепшага жыцьця. А ці гэта так? Упэунены што не, і паспрабую даказаць гэтае вам.

Культура не існуе толькі у дне сеняшнім. У сваім разьвіцьці яна абапіраецца на дзень мінулы. Успомнім, што узгадваючы захад, кажуць, мауляу, там старыя дэмакратычныя традыцыі, прававыя традыцыі і гэтак можна доуга працягваць. Таму бязумоуна - іх сеньня (аб якім мы толькі марым) грунтуецца на іх мінулым. А што ж мы? У нас, як быццам, два шляхі. Альбо абапірацца на уласную культуру (якую амаль цалкам згубілі), або пераняць якую йіншую.Разгледзім другі варыянт. Ужо адно то, што чалавек здраджвае уласнай культуры, ды перакідваецца у якую йіншую, ставіць пад вялікае сумненьне тое , што такі чалавек можа быць культурным. Пойдзем далей. Існуе факт, што беларускае грамадзтва у значнай ступені зрусіфікаванае. Што гэта значыць? Мы перанялі мову, культурныя традыцыі (што грунтуюцца на мове) і, як частку культуры, гісторыю. Атрымалася нешта небывалае у сьвеце. Калі у школе мы вывучалі гісторыю СССР (лічы Расеі), мы вывучалі яе як сваю уласную гісторыю. І атрымліваецца, што маскоускі цар Іван Жахлівы у Лівонскую вайну не захопнікам быу на Беларусі, а вызваліцелем. Нашымі нацыянальнымі героямі становяцца розныя Суворавы. І мы забываемся на тое, што Іван Жахлівы зьнішчыу амаль усіх жыхароу Полацака. Суворау патапіу у крыві нацыянальна-вызваленчае паустаньне пад кірауніцтвам Т.Касьцюшкі, і увогуле па усіх міжнародных нормах зьяуляецца захопнікам. Адракліся мы, напрыклад, і ад такога жудаснага факта. Калі у сярэдзіне XVII ст."вызваліцелі"з усходу чарговы раз прыйшлі з вайною на беларускія землі, яны зьнішчылі две трэці беларусау, што перавышае ахвяры нашае нацыі у Другой сусьветнай вайне. Ва усіх падручніках вайна гэтая названа Руска-польскай. Вось так... Мы самі адракаемся ад сваіх продкау, і гэтак пачалі рабіць яшчэ нашыя бацькі й дзяды. А зараз яны дзівяцца, чаму іхнія сыны ды унукі так хутка забываюцца аб іх, яшчэ жывых. Але дзівіцца тута няма чаму. Мы ужо апусьціліся да зьнішчэньня могілак (успомніце хаця б нядаунія Старажоускія могілкі), а тыя што засталіся нагадваюць сьметнік. Аб якой культуры можа ісьці размова?! Мы з вамі самыя дзікія людзі, варожыя да любой культуры! Нас трэба проста ізаляваць ад цывілізаванага сьвету.



"Добра, - скажуце вы - вернем гісторыю і станем культурнымі".Не, гэта яшчэ нішто. Нацыянальная гісторыя толькі частка нацыянальнай культуры. А якая нацыянальная культура можа існаваць без уласнае мовы? Ды ніякая. Мова наша яшчэ не зусім сканала, нам ня будзе патрэбы па новай яе зьнаходзіць. Болей таго, мы так-сяк яе ведаем і вярнуцца да яе ня так ужо і цяжка. А вернемся мы да мовы, адродзім уласную культуру - зьявіцца шанец заняць пачэснае месца у сусьветнай супольнасьці цывілізаваных народау. Ды й

ПР. НА 8 СТР.

# ЕСЬЦІ ХОЧАЦЦА ?

тажу і жраць зьявіцца чаго. Іншага шляху няма. Але усяго гэтага не дасягнуць без незалежнасьці, а таму...

Надышоў час зьвярнуць увагу і на незалежнасьць. "Слова та нейкае страшнае - незалежнасьць. Дык мы ж самі прападзем адразу". Вы пазнаеце уласныя думкі? Вось таму і трэба зьвярнуць на гэтае пытаньне асаблівую увагу. Вышэй мы, як маглі, давялі, што покуль мы насельніцтва а не нацыя, дык і жраць ня будзе чаго. Будзем абапірацца на гэнае, як на факт. Дык вось, калі мы хочам быць нацыяй, дык і дзяржаўная незалежнасьць нам неабходная, бо яна на роўні з мовай, адна з нацыятворных умоваў. Мы, як і мову, фармальную дзяржаўнасьць маем, дык і нацыя мы такая. І зноў успомнім гісторыю (недарма кажуць, што бязь гісторыі няма й будучыні). У канцы 18 ст. Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзіла і Беларусь, устала на шлях разьвіцьця капіталістычных адносінаў. Была прынятая першая у Эўропе Канстытуцыя. У сваім эканамічным разьвіцьці беларускія землі апярэджвалі суседаў Расею. Але Расея нас захапіла, і Беларусь ператварылася у адсталую правінцыю імпэрыі. Чаму так адбылося? Расея выдавала свой захоп за вяртаньне "исконно русских земель", але, натуральна, факты, асабліва нацыянальныя адраджэньні, пярэчылі таму. Тады беларусы былі абвешчаныя рускімі, але каб аб'явіць, трэба было нас такімі зрабіць. А цяпераka падумайце, які народ было б лягчэй зрусіфікаваць: заможны ды культурны, ці жабракі ды адсталыя? Вось у чым рэч. Між іншым, такую самую палітыку праводзіла Польшча у міжваенны перыяд у Заходняй Беларусі, а зараз на Беласточчыне. Вось і падумайце, чаго вартая незалежнасьць, а чаго яе страта. Чую голас апанента: "Расея нам нафты ня дасьць і мы прападзем". Ну і глупства. І Францыя і Нямеччына нафту завозяць, але нічога. Пакуль не прападаюць. Дай Бог нам з вамі так жыць як яны. Трэба будзе проста вучыцца працаваць як сьлед, а зробленым гандляваць.

Есьць і яшчэ адна падстава імкнуцца да незалежнасьці. Покуль мы будзем знаходзіцца у нейкім саюзе з Расеяй, наша культура (а без яе, як памятаеце, добра ня жыць), будзе адчуваць моцны уплыў расейшчыны. А для нашае культуры гэта вельмі небясьпечна. Чаму так? А вось чаму. Як лічуць зараз нават расейскія дасьледчыкі, культура Расеі па сваей сутнасьці усходняга, азіяцкага тыпу. У той час як наша беларуская культура грунтуецца на агульнаэурапейскіх традыцыях. Дзеяньне усходняй і заходняй культур на нас яскрава бачна у выніках такіх негатыуных па сутнасьці зьяваў як русіфікацыя і паланізацыя. У выніку дзеяньня першай зьніжаўся агульна-культурны узровень нашага насельніцтва, у выніку дзеяньня другой - наадварот павышауся.

Вось таму і бачыцца мне багатая Беларусь толькі незалежнай і з моцнай нацыянальнай культурай, а йінакш быць нам заўседы правінцыяй і жыць нам адпаведна.

1 жніуня 1514 г. расейскі вялікі князь Васіль III уехау у захоплены ім Смаленск. Гэтая падзея мела такое вялікае значэньне, што Васіль III ня толькі пацьвердзіў Смаленску ягоныя старыя прывілеі, але і надаў новыя. У Смаленску сьпешна быу арганізава-ны манатны двор. Але ужо праз пяць тыдняу ласка Васіля да новых падданых зьнікла. У Смаленску была выкрытая змова гарадзянаў, пачаліся рэпрэсіі. Зразумела, што адразу і назаўседы спыніў сваю дзейнасьць манатны двор. Як бачым, ня надта узрадваліся сма-ляне "вяртаньню" у расейшчыну.

Але тут есьць яшчэ адзін цікавы момант. На смаленскіх манэтах зьмяшчалася выява не расейскага дзяржаунага арла, але вершніка з занесеным над галавой мячом. Ці не нагадвае вам гэта "Пагоню"?

# ГРОШЫ, ГРОШЫ.

для того, чтобы начиная с 1991 года осуществить такие меры, заложить их в тринадцатую пятилетку. (аплодисменты)".

А вось што адказау Рыжков на пытаньне, чаму у праекце закона аб падатках няма ільготау для студэнтау: "думаю, мы просто упустили это, и при доработке закона... замечание надо обязательно учесть. Постановку вопроса считаю правильной". Ня хочацца верыць у тое, што нашыя кіраунікі настолькі зьневажаюць моладзь, што сьвядома хлусяць на увесь Саюз. Можа яны зноу "просто упустили", тады хваляваньне выклікае стан іхняга здароуя. А можа яны хацелі зрабіць невялічкі сюрпрыз? Ня ведаю што і адказаць. На гэтым можна было б і скончыць, але ж не магу не задаць яшчэ аднаго хвалюючага мяне пытаньня. Калі ж студэнцтва прачнецца і скажа хоць нешта у абарону сваіх правоу?









"studenckaja dumka"



Друкавана накладам 999 экз. Думкі аутарау ня абавязкова супадаюць з думкамі рэдакцыі. Адказны рэдактар Зьміцер Вайцяховіч. Тэл. рэдакцыі 31-73-70.